

№ 44 (205)
Лістапад 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:





# Славутыя імёны Бацькаўшчыны

***На Капыльшчыне 160-годдзе сваёй паэткі Соф'і (Зосі) Манькоўскай адзначылі прыгожа***

Зося (так яе называюць капыляне) нават у самых светлых марах не магла, відаць, уявіць, што прыйдзе час, калі не толькі тыя, хто захапляецца яе вершамі (і па-польску, і па-беларуску), а і беларускія дзяржаўныя ўстановы, і, што важна, школа – звернуцца да яе са словамі ўдзячнасці за тую паэтычную спадчыну, якую яна пакінула аб капыльскай зямлі, яе краявідах, людзях, кветках.

«Дарагавіцкая пяснярка», «Калыска сям'і Манькоўскіх», «Песні сэрца, што так чула гарэла» – гэта назвы артыкулаў у капыльскай газеце «Слава працы». Узнёсласць лунала і на ўрачыстасці ў раёным Цэнтры культуры. Адна, вельмі важная думка, характэрная для прамоваў усіх выступоўцаў: мы адкрылі творчасць таленавітай паэткі для сябе, каб перадаць гэтае адкрыццё нашчадкам.

Многа было сказана на ўрачыстасці, за круглым сталом У. Мархелем, В. Рагойшам, Р. Казаковай, Р. Баравіковай ды іншымі аб важнасці таго, што трэба яшчэ зрабіць, каб імя нашай зямлячкі-паэткі не было зноў згублена.

Гучалі вершы С. Манькоўскай па-беларуску ў выкананні студэнтаў філфака БДУ. Канцэртам таленавітых «Капыльскіх дудароў» віталі землякі сваю знакамітую паэтку.

Безумоўна, тут была выказана ўдзячнасць і тым, хто першы спрычыніўся да адкрыцця імя славутай капылянкі яшчэ 40 гадоў таму, хто пераклаў яе вершы з польскай на беларускую мову, хто прыехаў у гэты дзень на Капыльшчыну, каб выступіць і пакласці кветкі на магілу Зосі Манькоўскай. І такую даніну трэба ў першую чаргу аддаць загадчыку сектара Інстытута літаратуры НАН Беларусі кандыдату навук Уладзіміру Мархелю. Бо менавіта ён 40 гадоў таму, вандруючы па Беларусі на ровары, знайшоў на могілках вёскі Дарагавіца магілу Зосі Манькоўскай, цягам гадоў перакладаў яе вершы на нашу мову, публікаваў іх у зборніках.

«КГ» хочацца выказаць удзячнасць яшчэ і тым, хто зрабіў гэты дзень святам капыльскай зямлі, святам для паўнюткай залі Цэнтра культуры, – капыльскім аддзелам адукацыі і культуры, музею і бібліятэцы, упраўленням культуры і адукацыі Мінскай вобласці.

«КГ» таксама хоча пажадаць: мясцовым уладам, аблвыканкаму, Міністэрству культуры звярнуць больш пільную ўвагу на рэшткі сядзібнага дома Манькоўскіх у Дарагавіцы. Магіла паэткі, месца сядзібы з фрагментамі парку, іншыя мемарыяльныя рэчы, якія захаваліся, павінны быць узяты хоць бы пад мясцовую ахову як помнікі.

Патрэбна неадкладна правесці архітэктурную і фотафіксацыі парэштак дома Манькоўскіх, захаваць для будучага музея фрагменты гэтай пабудовы, бо сённяшні стан яе такі, што казаць пра рэстаўрацыю, на жаль, не выпадае.

***«КГ» хочацца верыць, што за святам з нагоды 160-годдзя паэткі пачнуцца будні вывучэння яе жыцця і творчасці, што да гэтай справы падключацца мясцовыя краязнаўцы, школьныя музеі, бібліятэкі, і яшчэ адно славутае імя Бацькаўшчыны вернецца да нас, каб мы перадалі яго нашчадкам.***

*Уладзімір ГІЛЕП, старшыня Беларускага фонду культуры*





*Раіса Баравікова і Уладзімір Мархель падчас вечарыны*

*Фота Канстанціна ДРОБАВА*

**Ва ўсім трэба прытрымлівацца трох пачаткаў: сапраўднага, сумленнага і карыснага**

*Ж. Мармантэль*





## Лісты ў кветках

**Ідучы на вечарыну «Калі душа заходзілася болем», прысвечаную выхаду ў свет «Выбранага» Сяргея Грахоўскага, успомніў словы пасла Украіны на Беларусі Ігара Ліхавога. На «Каласавінах» («КГ» пра гэта пісала ў № 42) ён нагадаў, што ў год юбілею класікаў – Янкі Купалы і Якуба Коласа – варта ўзгадаць дзесяткі пісьменнікаў, якія трапілі пад малох рэпрэсій у 1930-я. Год ідзе да завяршэння, а выйшаў толькі гэты том С. Грахоўскага. Нібы ў «такіх сініх снягах»[1] навекі замерзла спадчына рэпрэсаваных. Толькі «снягі» ўжо не такія й далёкія...**

У 23 гады – ахвяра рэпрэсій, у 42 – цалкам рэабілітаваны. Гэта дзве мяжы лёсу пісьменніка С. Грахоўскага. З наіўнага пачаткоўца-літаратара ён стаў чамусьці "дзяржаўным злачынцам" і 19 гадоў правёў у ГУЛАГу, пад няспынным наглядам, на "вечным пасяленні"... І амаль да 90 гадоў пісаў, нібы аддаючы паперы тое, што не даказала яго таленавітае пакаленне. Яго творы, дзе напісана, якое жыццё ў ГУЛАГу насамрэч, апярэдзілі ў перыёдыцы многія забароненыя "лагерныя бестселеры" Францішка Аляхновіча, Аляксандра Салжаніцына, Варлаама Шаламава.

14 лістапада Грахоўскага ўспаміналі даследчыкі яго творчасці і калегі-літаратары. Лідзія Савік распавяла пра першыя крокі ў вяртанні спадчыны рэпрэсаваных пісьменнікаў. І тут першымі дарадцамі для навукоўцаў былі жывыя сведкі тых падзей – Сяргей Грахоўскі і Ян Скрыган. Л. Савік наладзіла выставу твораў і тырэмных здымкаў літаратараў – ахвяр рэпрэсій.

Гаварылі і чыталі творы Грахоўскага, узгадвалі свае повязі з тым страшным часам Вольга Іпатава (вядучая вечарыны), Анатоль Вярцінскі, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Леанід Дранько-Майсюк. Вялікае ўражанне зрабіла выступленне даследчыка рэпрэсій на Беларусі Леаніда Маракова – пляменніка расстралянага «беларускага Ясеніна» паэта Валерыя Маракова.

Былі ў зале і тыя, хто сам быў у "зоне маўчання", дзеці "лагера". Іх выступленні былі кранальныя. Напрыклад, вось такое, не "нацыяналістычнае", а хораша "інтэрнацыянальнае". Дзяўчынцы-латышцы, якую "забралі органы", маці, прадбачачы строгую савецка-лагерную цэнзуру, сказала на развітанне: "Калі табе будзе дрэнна, намалюй у лісце адну кветку, калі дужа дрэнна – дзве, калі зусім цяжка – тры". І лісты прыходзілі дадому ўсыпаныя маляванымі кветкамі...

Краты, што паўсталі на шляху нашага прыгожага пісьменства і наогул нацыі ў 1920–1950-х, і цяпер не праламаць. Гэта не танкаўскае іржавае жалеза, што «недзе хруснула ў худых руках», такое не праломвае нават час. Анатоль Сыс (песні на словы ягоных вершаў на вечары выконваў зямляк-бард) пісаў: «Калі краты распілаваць, атрымаецца шэсць крыжоў». Калі нарэшце распілуюць краты 70-гадовай мінуўшчыны, то крыжоў будзе куды больш. І Беларусь зноў на скрыжаваннях...

***Сяргей ТРАФІЛАЎ***

[1] Ад назвы аповесці С. Грахоўскага.

## Тут Карлсан і шведскі пасол гавораць па-беларуску

***У Беларусі прайшоў фестываль дзіцячага шведскага кіно, прымеркаваны да 100-годдзя выдатнай пісьменніцы Астрыд Ліндгрэн. Для маленькіх (ды й не толькі!) беларускіх гледачоў былі прапанаваныя тры мастацкія стужкі – «Усе нашы дзеці з Булербю», «Маленькі Нільс Карлсан» і «Браты Ільвінае Сэрца». Тут варта адзначыць, што арганізатары правялі імпрэзу не толькі ў сталіцы, але і ў Гомелі.***

Усе фільмы своеасаблівага фестывалю дэманстраваліся па-шведску з англійскімі субтытрамі, а таксама быў прадугледжаны сінхронны пераклад на беларускую мову. У мінскім кінатэатры «Цэнтральны» гледачоў прывітаў кіраўнік аддзялення шведскага пасольства ў Мінску Стэфан Эрыксан. Ён прадставіў новае выданне – акурат да юбілею пісьменніцы і напярэдадні фестывалю шведскага кіно па-беларуску выйшла кніга «Малы і Карлсан-з-даху». Аўтары праекта Настасся Мацяш і Алесь Яўдаха, з мовы арыгінала пераклаў Юрась Жалезка. Варта адзначыць і выдатныя каляровыя ілюстрацыі Марыны Рудзько. 2 000 асобнікаў кнігі аддрукаваныя ў нас, на Мінскай фабрыцы каляровага друку. Нагадаем, што раней па-наску выходзілі «Усе нашы дзеці з Булербю» і «Браты Ільвінае Сэрца» (перакладзеныя на беларускую з англійскай).



*Кадр з фільма «Усе нашы дзеці з Булербю»*




Праўда, была на той імпрэзе і адна, менш прыемная, неспадзяванка, пра якую мне са здзіўленнем распавяла дачка-чацвертакласніца Барбара пасля фільма. «Усё было цікава, падрыхтавалі нават забаўляльную праграму, віктарыну па творах Ліндгрэн. Але ж, тата, па-беларуску размаўляў толькі пасол, а нашыя жанчыны гаварылі па-руску. Чаму яны так? І чаму ў падарунак пераможцы віктарыны атрымалі рускія часопісы? У нас жа шмат беларускамоўных ёсць...» Што было адказаць? Давайце падумаем разам. А таксама пра тое, чаму сусветнай класікі – як «дзіцячай», так і «дарослай» – па-беларуску выдаецца ў нас надзвычай мала? Хіба – каб сказаць, што ў нас няма нічога і належыць паслугавацца рускай ды англійскай мовамі...

Напрыканцы ж прапаную цытату з слова сп. Эрыксана да выдання кнігі пра Карлсана: *«Глыбока ў душы яна засталася маладою і заўсёды стаяла на баку дзяцей. Вельмі прыемна, што да стагоддзя з дня нараджэння Астрыд Ліндгрэн выходзіць першы беларускі пераклад яе кнігі "Малы і Карлсан-з-даху". Можна, канечне, здзіўляцца, што дагэтуль так мала яе твораў выдадзена па-беларуску. Але сёння трэба толькі парадавацца, што нарэшце дзеці ў Беларусі маюць магчымасць прачытаць пра прыгоды гэтых непаўторных герояў на сваёй роднай мове. Жадаю прыемнага чытання і спадзяюся, што гэта не апошні твор Астрыд Ліндгрэн, з якім вы будзеце знаёміцца на беларускай мове».*

***Уладзімір ПУЧЫНСКІ***





***Ведаць край. Збіранне камянёў старажытных гарадзішчаў***

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*



***Янка Купала і Яніс Раніс***
*(карціна М. Гусева, 1959 г.)*

## *На тым тыдні...*

● **14 лістапада** ў Нацыянальным мастацкім музеі адбылося адкрыццё выстаўкі **«Сучасная японская кераміка»**. На вырабы з далёкаўсходняй краіны запрашаюць паглядзець Японскі фонд, Міністэрства замежных спраў Японіі, амбасада гэтай краіны ў Беларусі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

● **15 лістапада** ў тым жа музеі адбылося **адкрыццё выстаўкі жывапісу латвійскіх мастакоў**, прымеркаванай да 89-й гадавіны абвяшчэння Рэспублікі Латвія. Як адзначыў старшыня таварыства «Беларусь – Латвія» пісьменнік Сяргей Панізьнік, «дзякуючы такой выставе Латвія стала бязмежнай дзяржавай, калі паказала ў музеі наробак сваіх мастакоў».

А **16 лістапада** ў Таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі прайшоў святочны канцэрт. Выступілі хор з Латвіі «Muklajs» пад кіраўніцтвам Сандры Шматэ, беларускія хоры «Голас душы» і «Сымонкі». Госці спявалі свае народныя песні і творы сучасных кампазітараў, а таксама падрыхтавалі неспадзяванку. Хор заспяваў (ці не ўпершыню ў сваёй гісторыі?) па-беларуску – прагучала «Рэчанька» (варта адзначыць, без надта бачных пагрэхаў у беларускім вымаўленні, якімі часам грашаць нашыя суайчыннікі).



● **21 лістапада** Польскі Інстытут у Мінску і Нацыянальны музей гісторыі і культуры адкрылі **выстаўку «Лялькі польскія. Лялькі свету»**, падрыхтаваную сумесна с фондам «Цэпелія». У экспазіцыі 2 часткі: першая паказвае польскія лялькі ў нацыянальных і гістарычных строях, а другая – лялькі краін свету, падораныя ўдзельнікамі Міжнароднага біенале рэгіянальных лялек (1974–2000).

# *Латвія памятае паэта...*

***Сталіцу Латвіі Янка Купала наведаў за некалькі дзён да пачатку Вялікай Айчыннай вайны – разам з дэлегацыяй літоўскіх пісьменнікаў 13 чэрвеня 1941 года ён прыехаў у Рыгу на аўтамабілі (Пятрусь Броўка і Міхась Лынькоў прыбылі цягнікам). Паводле ўспамінаў Люцыі Тэтарэ і Анастасіі Крэйц, рыжскія беларусы і іх дзеці ўручалі кветкі дзядзьку Янку ў гасцініцы «Рым», дзе Купала пасяліўся ў нумары на другім паверсе. Гасцініца гэтая была разбурана ў 1944 годзе. Прыблізна на яе месцы на бульвары Аспазіяс, 22, цяпер стаіць гасцініца «Рыга».***

***У памяць пра слаўнага сына братняга беларускага народа адна з вуліц Рыгі была названа імем Купалы***



***Народны паэт Латвіі Яніс Райніс з беларускімі пісьменнікамі (другі справа сядзіць Я. Купала)***

У Рызе 14–15 чэрвеня 1941 года праходзіў І з'езд пісьменнікаў Латвіі. Янка Купала прысутнічаў на пасяджэннях у зале былой Вялікай гільдыі (цяпер філармонія, вуліца Амату, 6), выступаў там. Сказаў слова народны паэт Беларусі і на інтэрнацыянальным вечары ў Вялікай зале Латвійскага дзяржаўнага універсітэта (бульвар Райня, 19).

Як згадвае пісьменнік Ян Янавіч Ніедрэ (а ён тады быў старшынём аргкамітэта Саюза пісьменнікаў ЛССР), 16 чэрвеня адбылася сустрэча кіраўнікоў нацыянальных дэлегацый у Доме творчасці ў Сігулдзе, размешчаным у маляўнічай мясцовасці на беразе Гаўі. Праз 40 гадоў па просьбе Беларускага тэлебачання Ян Ніедрэ расказаў пра сустрэчы з народным паэтам Беларусі. Расказаў шчыра, сардэчна, згадваючы цікавыя дэталі, і было ўражанне, што Купала недзе побач, толькі адлучыўся палюбавацца сонечнымі маляўнічымі краявідамі нацыянальнага парку «Гаўя»...

***У асабістай бібліятэцы народнага паэта Латвіі – сябра Купалы зберагаюцца і некалькі кніг, прывезеных з Мінска, з Купалавага дома***

У Юрмале (Майёры, вуліца Я. Пліекшана, 5/7) знаходзіцца юрмалаўская дача-музей Я. Райніса. У асабістай бібліятэцы народнага паэта Латвіі – сябра Купалы зберагаюцца і некалькі кніг, прывезеных з Мінска, з Купалавага дома. Чытаем адзін з аўтографаў, накрэсленых лацінкай: «Вельмі паважанаму песняру Латвіі Я. Райнісу шчырапрызны Янка Купала. Менск: 19.XI.26 г.» Але тут Купала не быў. Быў у Ліелупэ: 17 чэрвеня 1941 года Купалу і іншых удзельнікаў з'езда пісьменнікаў запрасіў да сябе на дачу Аўгуст Мартынавіч Кірхенштэйн, тагачасны старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Латвійскай ССР. Гэты акуратны домік пад нумарам 1 і сёння стаіць на вуліцы 19-я лінія.

І яшчэ два рыжскія адрасы, дзе захаваліся Купалавы сляды... На вуліцы Э. Вейдэнбаума, 2 (зараз Базніцас) у 1940–1941 гадах стаяў дом, дзе размяшчаўся Саюз пісьменнікаў Латвіі, які наведаў Купала. Сёння на гэтым месцы – гасцініца «Латвія». Побач з ёю дом № 4а – якраз такі, як той, пісьменніцкі... Непадалёк стаіць будынак, дзе да вайны на другім паверсе выдавалася літаратурная газета Саюза пісьменнікаў (цяпер вуліца Стабу, 6а). Ніжні паверх быў адведзены пад клуб маладых пісьменнікаў. У гэтым клубе 8 снежня 1940 года быў наладжаны літаратурны вечар, прысвечаны творчасці Янкі Купалы. Даклад зрабіў Я. Грантс. У сваім выступленні А. Грыгуліс, у прыватнасці, падкрэсліў: «Імя Янкі Купалы – гэта імя сусветнага маштабу. І яно стала сусветным дзякуючы інтэрнацыянальнай літаратуры ў цэлым». У памяць пра слаўнага сына братняга беларускага народа адна з вуліц Рыгі была названа імем Купалы.

*Сяргей ПАНІЗЬНІК*

Wielmi pawažanamu
pieśniaru Łatwii
J. Rajnisu Škyrapryzny
Janka Kupała
Miensk 19/XI-26 h.

***Прысвячэнне Я. Купалы Янісу Райнісу***



***Я. Купала сярод латвійскіх пісьменнікаў (Рыга, 1941 г.)***

***Сяргей ПАНІЗЬНІК*** *1997*

### Нязломныя сосны Райніса

*Натхненне ў Юрмале –*
*ад сцежак,*
*ад аблачынак, ад усмешак,*
*прыбою дужага, дажджынак,*
*зажынак песень і дажынак.*

*Натхненне ў Юрмале –*
*як свята:*
*душа над буднямі прыўзнята,*
*а з ёю – горад баравы.*
*І кружаць вершы-жураўы:*

*нібыта з Тадэнайскай зыбкі*
*ўздымаліся... Іх пераняць*
*хачу я. Стаў на бераг сыпкі...*

*Падняцца б мне цяпер на дыбкі*
*і сосны Райніса абняць.*

*Бо ткуцца ў Янісавых кроснах*
*і маці Дарты песні-сосны...*
*А зык: «Ён – беларусаў*
*хросны!» –*
*вятром ніколі не суняць.*







# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



(Працяг. Пачатак у №№ 3–43)

Новы, *1931*, год Янка Купала сустрэў у бальніцы, хоць з часу яго самаранення прайшло амаль паўтара месяца («Рана не загойвалася. Як паведаміў мастак Я.М. Ціхановіч: яго маці, якая працавала ў бальніцы санітаркай, бачыла, як за шырмаю каля Я. Купалы сядзеў супрацоўнік НКУС». – Янка Купала. Поўны збор твораў). Хоць яго цяпер берaглі, Купала не мог стаць на ногі і з-за душэўнага болю: летась былі арыштаваныя паважаныя ім В. Ластоўскі, М. Грамыка, А. Цвікевіч, Я. Лёсік, Ф. Ждановіч, Ул. Жылка, Ул. Дубоўка, М. і Г. Гарэцкія, а ўслед за імі і іншымі ў 1931-м цунамі рэпрэсій прадоўжыліся: 4 лютага не стала акадэміка, яго сябра У. Ігнатоўскага...

Як толькі крыху акрыяе, яму трэба будзе самому наконт сябе выкрываць не толькі тое, што ён – «не нацыяналфашыст», але і тое, што гэта – подлая буржуазная прапаганда, што ён – жывенькі і здаровенькі, з ім паранейшаму яго сябры – думка, пачуццё, паэтычнае светлае пяро. Ды за той год ён напісаў толькі некалькі вершаў і ў зададзеным яму палітычнымі наглядчыкамі духу («А ў Вісле плавае тапелец», «Песня будаўніцтву» і інш.). Ды крытыкі (асабліва афіцыйны, «аглабельшчык» Л. Бэндэ і памагаты А. Кучар) не праяўляюць да яго ніякага гуманізму: у «Маладняку» №№ 5–7 працягваюць шальмаваць ягоную творчасць з вульгарнасацыялагічных пазіцый: творчасць Купалы нявартая новай эпохі, Купала не «перабудаваўся!»

*1932 год*. Ён афіцыйна, публічна прыемна азнаменаваўся для пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва падарункам: 26 лютага выйшаў першы нумар газеты «Літаратура і мастацтва», рыхтаваўся да друку 6-ы том Збору твораў Янкі Купалы (у той год выйшаў 4-ы). У «ЛіМе» Купала вітае пастанову ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» артыкулам «Дасцігнем нявіданых сусветных поспехаў» (пра першыя пісьменніцкія з'езды БССР і СССР у «КГ» пісалася ў слове пра Якуба Коласа). Паколькі грамадскасць Беларусі шчыра хоча любімага песняра бачыць і чуць, віншаваць з ягоным 50-годдзем, то Купала часта наведвае розныя мясціны, выступае (вечары, прысвечаныя яму, ладзяцца ў Расіі, на Украіне, у Літве, Латвіі, у Югаславіі ды інш.). Разам з іншымі палымяна пратэстуе супраць суда ў Польшчы над беларускім вучоным і грамадскім дзеячам Б. Тарашкевічам (хоць бачыў выдатна паралель: як у Савецкай, так і ў Заходняй Беларусі за прыгожымі лозунгамі пра далейшае развіццё эканомікі, народнага шчасця ўсім убівалі ў галовы, што рай не наступае, таму што перашкаджаюць ворагі народа, асабліва самыя свядомыя беларусы, «нацыяналісты». У БССР імі былі «нацдэмы», «польскія шпіёны», у Заходняй Беларусі – «беларусы – агенты бальшавізму»; цывілізаваная, дэмакратычная Еўропа ў многім прымоўчвала, аддаючы славян на вынішчэнне). Можа, і шукаючы моцы ў некалі гнанага і зняволенага, абылганага, але няскоранага Т. Шаўчэнкі, Купала натхнёна працуе над перакладам ягонага «Кабзара».




(Працяг. Пачатак у №№ 40, 41)

**Алесь ГАРУН**

## Януку Купале

*Хоць прастая і малая*
*«Жалейка» твая,*
*Але надта пекне грае,*
*Як паслухаў я.*

*Грае звонка, стаіць ёмка*
*За свой родны край;*
*Сярод бедаў і пацёмкаў*
*Будзіць, так і знай,*

*Каб ачнуліcь, страпянуліcь,*
*Кожын стаў брат, друг, –*
*Абярнуліcь, аглянуліcь*
*На сябе вакруг.*

*Сваё мора бяды, гора,*
*Крыві, поту, слёз,*
*Каб звёў кожын дружна, скора,*
*З паніжэння ўскрос.*

*Так спявае, так іграе*
*«Жалейка» твая...*
*Табе «дзякуй» скажа ўсякі,*
*Дык скажу і я!*

*1908*

**Яўгенія ЯНІШЧЫЦ**

*Вузельчыкі званкоў*
*І росы на папасе.*
*Шчэ столькі вечароў*
*Харошых у запасе!*

× × ×

Калі б усе вятры Беларусі
Курган намялі, —
Ён быў бы помнікам
Ля падножжа захмарнай вяршыні
Славы тваёй;

Калі б усе гаі Беларусі
Хацелі сцелю ўслаць
Дзе ногі твае ступалі, —
У іх бы лістоў не хапіла;

Калі б усе навальніцы плакалі, —
Іхнія слёзы
Былі б драбнюткай расінкай
На вейцы тугі па Табе,
Іван Дамінікавіч,
Дзядзька Янка,
Купала...

1966

Рыг. Барадулін

*Няхай не размяняць*
*Ні сцежкі і ні долі.*
*Прыслухайся: шумяць*
*Жыты на вольным полі.*

*Прыслухайся:*
*яшчэ*
*Бяды не так і многа,*
*Калі ступню пячэ*
*Адкрытая дарога,*

*І сцелецца ў цішы*
*Сяброўская размова,*
*І спеліцца ў душы*
*Купалавае слова.*

**Максім ТАНК**

## Пераносім урну з прахам Янкі Купалы[1]

*Мы доўга не асмельваліся пераносіць*
*Паэта урну на яго радзіму,*
*Каб лішні боль не прычыніць зямлі,*
*Той, што яго ў пакутах нарадзіла,*
*Крывавіла на франтавых дарогах,*
*Дыміла галавешкамі руін.*
*Мы думалі, калі залечым раны*
*І заарoм зямлянкі і акопы,*
*Узрасцім першы хлеб на папялішчах,*
*Падвесім зноў калыскі*
*ў нашых хатах, –*
*Не гэткаю цяжкой і гэта урна будзе.*
*Але бяссільны аказаўся час.*
*З гадамі ўсё больш і больш*
*Мы толькі ўсведамлялі нашу страту.*
*Таму, калі паэта урну неслі*
*На месца яе вечнага спачыну,*
*У кожнага схіляліся так плечы,*
*Як не схіляліся ні пад свінцовым*
*градам,*
*Ні пад якой бядой і навальніцай.*

*1968*

[1] 30 чэрвеня 1962 года урна з прахам Янкі Купалы была перавезена ў Мінск з Масквы.

## З Купалам у сэрцы

Стрымана (♩ = 92)

C — Am — Dm — F — G — C — Gm — A — Dm — F — C — F — G — C — G — Dm — G — F — C — F — G — C

Мы жы - вём на зям - лі, дзе ма - літ - вы кры - ло да ку - паль - скай кры - ні - цы з на - дзе - яй пры - па - ла. Нас на - ве - даў Ку - па - ла — свят - ло а - жы - ло: пра - мя - ні - ста - му сло - ву ма - ліў - ся Ку - па - ла.

Прыпеў: Пры - ту - лак лю - бо - ві — ку - па - лаў - скі дом. З Ку - па - лам у сэ - эр - цы, з Ку - па - лам у сэр - цы жы - вём.

*Словы Сяргея ПАНІЗЬНІКА,*
*музыка Міколы ЯЦКОВА*

*1. Мы жывём на зямлі,*
*Дзе малітвы крыло*
*Да купальскай крыніцы*
*з надзеяй прыпала.*
*Нас наведаў Купала – святло ажыло:*
*Прамяністаму Слову маліўся Купала.*

Прыпеў:
*Прытулак любові – Купалаўскі дом.*
*З Купалам у сэрцы,*
*З Купалам у сэрцы жывём.*

*2. Нашай нівы вязьмо*
*На зажынкі заве.*
*Вольны вецер напеў вольных*
*песняў нямала.*
*І хто быў на зямлі, і хто сёння жыве, –*
*На Купалу глядзіць.*
*Нас вітае Купала.*

Прыпеў.

*3. Мы Айчыны сыны,*
*Мы сябры, грамада.*
*Свой пачэсны пасад зноў*
*любоў адшукала.*
*Хай жыве Беларусь – як агонь, як вада!*
*У адвечнай хадзе Беларусь і Купала.*

Прыпеў.

# Якуб Колас і Навагрудчына

***Жыццё народнага паэта Беларусі Якуба Коласа доўгі час было спалучана з навагрудскай зямлёй. У перыяд з 1946 па 1956 год ён не раз абіраўся дэпутатам у Вярхоўны Савет СССР ад Навагрудскай выбарчай акругі. Сюды ён наведваўся для правядзення перадвыбарных сустрэч, а таксама ўжо як дэпутат Вярхоўнага Савета СССР. Гэтую зямлю ён любіў і шанаваў як радзіму вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча.***

Упершыню Якуб Колас пабываў у Навагрудку ў канцы 1940 года ў складзе рэспубліканскай камісіі па правядзенні мерапрыемстваў, прысвечаных 85-годдзю з дня смерці Адама Міцкевіча. Разам з Я. Купалам, П. Броўкам, Я. Бранеўскай і іншымі дзеячамі культуры Якуб Колас наведаў Навагрудак, пабываў у Доме-музеі Адама Міцкевіча.

У студзені 1946 года Якуб Колас быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты і ў суправаджэнні Пятра Глебкі накіраваўся ў перадвыбарчую паездку па Навагрудчыне. Тут ён сустракаўся з калектывам шклозавода «Нёман». Выбаршчыкі шчыра і цёпла віталі гасцей, задавалі шмат пытанняў, была жывая гутарка з прысутнымі. Потым вярнуліся ў Навагрудак, дзе правялі другую сустрэчу. На яе прыйшлі многія жыхары горада. Якуб Колас выступіў з прамовай, гаварыў пра адбудову краіны, пра надзённыя клопаты. Пасля афіцыйнай часткі сустрэчы Якуб Колас размаўляў з жыхарамі Навагрудка, раздаваў аўтографы. У Навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеі ёсць кніга Якуба Коласа «Сымон-музыка», якую ён падарыў пачынаючаму тады Навагрудскаму паэту Самсону Пярловічу. У гэты прыезд на Навагрудчыну Якуб Колас наведаў таксама мястэчка Любча, пабываў у Карэлічах, Гарадзішчы, Баранавічах, на возеры Свіцязь. У «Литературной газете» быў надрукаваны артыкул «В родных местах», у якім Якуб Колас апісвае сустрэчу ў мястэчку Гарадзішча з былымі партызанамі, чый атрад насіў яго імя.



*Ілюстрацыя В. Шаранговіча да «Новай зямлі» на трох мовах*



Пасля гэтай паездкі Якуб Колас зрабіў запіс у дзённіку 29 студзеня: «Усюды, дзе ні былі, сустракалі нас шчыра, гасцінна, прыязна».

Аб уражаннях Якуба Коласа ад возера Свіцязь успамінаў пісьменнік Яфім Садоўскі: «Дарогу Колас, па яго асабістым прызнанні, любіў. Яна быццам акрыляла, надавала моцы. А ў апошнія гады жыцця паэт пры кожнай магчымасці ездзіў па любімых мясцінах, дзе ведаў кожную сцяжынку. Возера Свіцязь Колас называў самым прыгожым у Беларусі, і калі яно не ляжала на шляху, а знаходзілася ўбаку, то вадзіцель збочваў, каб наведаць гэты цуд беларускай прыроды. ... Пешшу па свежай сцяжынцы падышлі да зімовага возера. Канстанцін Міхайлавіч доўга моўчкі на беразе стаяў, потым прыгадаў 1940 год, калі яму патрабавалася першы раз прыехаць у Навагрудак на першае пасяджэнне рэспубліканскай камісіі па правядзенні 85-годдзя з дня смерці Адама Міцкевіча».

У лютым 1950 года Якуб Колас зноў зарэгістраваны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР па Навагрудскай выбарчай акрузе. У камісію па выбарах паступілі пратаколы перадвыбарчых агульных сходаў рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў і служачых шклозавода «Нёман», выкладчыкаў і студэнтаў Навагрудскага педвучылішча аб вылучэнні кандыдатам у дэпутаты Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча (Якуба Коласа), а таксама заява, у якой ён дае згоду балатавацца па Навагрудскай выбарчай акрузе. У канцы лютага – пачатку сакавіка Якуб Колас пачаў праводзіць сустрэчы з выбаршчыкамі. У гэтай паездцы Якуба Коласа суправаджаў Максім Лужанін, які расказваў аб жыццёвым і творчым шляху кандыдата ў дэпутаты, аб яго грамадскай дзейнасці. Сустрэчы з выбаршчыкамі праходзілі на шклозаводзе «Нёман», у Навагрудку. «З'яўленне на трыбуне класіка беларускай літаратуры было сустрэта бурнай авацыяй прысутных. Усе стоячы горача віталі любімага песняра. "Дарагія таварышы выбаршчыкі, – звярнуўся Якуб Колас, – дазвольце сказаць вам вялікі дзякуй за аказаны давер. Я рады бачыць вас, браты і сёстры, людзей, якія мужна змагаліся з гітлераўскімі акупантамі і сёння сваімі рукамі залечваюць раны, нанесеныя лютай вайной. Будзем жа ўсімі сіламі ўмацоўваць нашае жыццё, будзем змагацца за трывалы мір ва ўсім свеце"». Пасля выступлення адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці, дзе гучалі песні на словы паэта. 2 сакавіка 1950 года Якуб Колас абіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР па Навагрудскай выбарчай акрузе.

У лютым 1954 года Я. Колас трэці раз вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР па Навагрудскай выбарчай акрузе № 549. 3 сакавіка 1954 года пачалася перадвыбарчая паездка Якуба Коласа па Навагрудчыне. Ён зноў сустракаўся са сваімі выбаршчыкамі, пабываў на Нёмане, возеры Свіцязь. Былы настаўнік Валеўскай сярэдняй школы Уладзімір Урбановіч успамінаў: «Многія помняць гэтыя сустрэчы. Помню іх і я. Звычайна народны паэт, падняўшыся на трыбуну, адкладваў убок акуляры, адсоўваў лісткі напісанай прамовы і пачынаў проста і шчыра гутарыць з народам. У яго прамове не было адточаных, траскатлівых выразаў, прамоўніцкіх жэстаў. Ён проста гутарыў, раіўся са сваімі выбаршчыкамі так, як гэта робяць у дружнай і шчырай сям'і. Пасля афіцыйнага сходу кандыдат у дэпутаты звычайна яшчэ доўга заставаўся ў зале, гутарыў з тым, хто да яго звяртаўся. Я бачыў усё – гэта быў не проста давер, а выяўленне народнай любові да свайго духоўнага настаўніка».

14 сакавіка 1954 года адбыліся выбары, і Якуб Колас быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.

Навагрудская зямля заўсёды прыцягвала пісьменніка сваёй старажытнай гісторыяй і непаўторнай прыгажосцю. Якуб Колас высока цаніў Адама Міцкевіча і быў знаёмы з яго творчасцю яшчэ з дзяцінства. Леў Мірачыцкі ў артыкуле «Якуб Колас і польская культура» піша: «Патрыятычная творчасць Адама Міцкевіча рабіла ўплыў на ўсе краёвыя літаратурныя таленты. Невялікі графічны партрэт польскага паэта работы навагрудскага мастака Казіміра Мардасевіча распаўсюджваўся ў шматлікіх копіях мясцовых рысавальшчыкаў. Па сямейным паданні такі партрэт у рамцы з пазалочанай абводкай вісеў на сцяне і ў бацькоўскай хаце будучага беларускага паэта. Паказальна таксама і тое, што яго падаравала Кастусю Міцкевічу хросная маці "пані Аксеня", жонка работніка лясніцтва. Як дарагую рэліквію ў сям'і захоўвалі томік "Балад і рамансаў" польскага паэта». Ужо будучы вядомым паэтам Якуб Колас не раз звяртаўся да творчасці Адама Міцкевіча. У артыкуле «Светлыя старонкі дружбы», надрукаваным у «ЛіМе» ў лістападзе 1955 года да 100-годдзя з дня смерці Адама Міцкевіча, Якуб Колас разглядае творчы шлях паэта, яго месца ў польскай літаратуры, вызначае характэрныя рысы ягонай творчасці, вялікую ролю мастацкай спадчыны выдатнага паэта для сучаснасці, сусветнае значэнне яго паэзіі.

29 лістапада 1955 года Якуб Колас уступнай прамовай адкрывае вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня смерці А. Міцкевіча, і гаворыць аб тым, што імя Адама Міцкевіча з'яўляецца нацыянальным гонарам, што ў яго натхнёных творах знайшлі адлюстраванне перадавыя ідэі свайго часу.

У часопісе «Беларусь» (№ 11 за 1955 год) быў надрукаваны артыкул «Вялікі друг народа», у якім Я. Колас гаворыць аб вялікай любові польскага паэта да сваёй радзімы, пра беларускую прыроду, якая натхняла ягоную музу, разглядае народнасць як вызначальную рысу творчасці Міцкевіча. «Народнасць паэзіі Міцкевіча, глыбіня пранікнення паэта ў душу народа, веданне яго дум і спадзяванняў, вуснай творчасці, побыту, прыроды – сапраўды здзіўляе», – піша Я. Колас.

***Сёння, успамінаючы мінулыя гады, навагрудчане могуць ганарыцца, што з нашым горадам быў звязаны лёс вялікага паэта нашай Бацькаўшчыны. Яшчэ сёння ў Навагрудку памятаюць аб сустрэчах з народным паэтам Беларусі Якубам Коласам, які па-сапраўднаму клапаціўся пра надзённыя праблемы сваіх выбаршчыкаў. У Навагрудку на перакрыжаванні вуліц Адама Міцкевіча і Віктара Валчэцкага, побач з аўтавакзалам стаіць бюст Якубу Коласу – народнаму паэту Беларусі. Гэты помнік быў пастаўлены ў знак асобай павагі навагрудчан да Песняра.***

*Галіна КАВАЛЬЧУК,*
*навуковы супрацоўнік Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–43)*

Яго выступленне друкуецца ў «Звяздзе» пад лозунгам «Вялікія грандыёзныя задачы», у якім ён вылучыў свае патрабаванні да ўзроўню беларускай літаратуры (у тым ліку і да сябе), завастрыў увагу на паляпшэнні «быту калгаснікаў».

Вось тут, каб была магчымасць, можна было б больш паразважаць пра Коласаў клопат аб паляпшэнні «быту калгаснікаў». Пра тое, што ён ведаў і меў на ўвазе, пра што сказаў, а што, як кажуць, прыхаваў у падтэксце пад паняццем «быт калгаснікаў». А быў той «быт» і для тых, каго прызналі бедным і свядомым, не выселілі ў Сібір як «кулака-эксплуатататара», ох які нялёгкі!.. Праўда, як дэлегат VII Усесаюзнага з'езда Саветаў у лютым друкуе ў газеце «Правда» нататкі, дзе найперш расказвае пра вялікія гаспадарча-эканамічныя і культурныя дасягненні рэспублікі. Гэта было і зусім зразумелае: да гэтага часу і, сапраўды, Беларусь займела магчымасць «усплыць» у добрым значэнні гэтага слова. А па-другое, чаму не сказаць пра гэта беларускаму народнаму паэту? А па-трэцяе, ці варта на самым высокім форуме гаварыць пра свае болькі, калі іх трэба вырашаць самім і ў сябе?!

Як і некалькі гадоў таму, Колас асуджае расправу ўрада буржуазнай Польшчы над усім беларускім у Заходняй Беларусі. Чытачы даведваюцца, што пасля ранейшых раздзелаў паэмы «На шляхах волі» не пастаўленая апошняя кропка, пад канец лютага ён заканчвае 25-ю яе частку, у сакавіку – 26-ю. Значыць, ён па-ранейшаму надаваў ёй вялікае значэнне. Калі да яе, цяпер фактычна забытай, звярнуцца па-новаму, то трэба і па-новаму перачытваць кожны радок, сярод шматслоўя вышукваць *недагаворанае...*

У снежні ўдзельнічае ва ўрачыстасцях, прысвечаных святкаванню 30-годдзя літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. У Маскве выходзяць Коласавы «Избранные стихи» ў перакладзе М. Ісакоўскага, С. Гарадзецкага і інш. (гэтым зборнікам быў не зусім задаволены, бо, на яго думку, складальнік выбраў не лепшае, а па-другое, і некаторыя пераклады маглі быць на больш высокім узроўні).

*1936 год.* Перапрацоўвае п'есу «Вайна вайне» для пастаноўкі ў Віцебскім БДТ. У лютым разам з Купалам удзельнічае ў рабоце III сесіі ЦВК БССР XI склікання, а таксама бярэ ўдзел у рабоце III пленума Праўлення ССП СССР, зачытвае прывітальную тэлеграму ад М. Горкага. Выступіў на пленуме з прамовай, дзе, у прыватнасці, крытыкаваў беларускую паэзію за «вузкасць паэтычнага гарызонта», «сухасць, расплыўчытасць, няўменне канцэнтраваць думкі і пачуцці ў адным суцэльным мастацкім комплексе», а таксама выказаў незадавальненне справай выкладання літаратуры ў школе і ў сувязі з адсутнасцю добрых падручнікаў па літаратуры.







**Краязнаўчая занепакоенасць**

# ...І Смілавічы!

***Нядаўна ў Смілавіцкай гарпасялковай бібліятэцы адбылася краязнаўчая канферэнцыя, удзел у якой прынялі супрацоўнікі мясцовых бібліятэк, настаўнікі, прадстаўнікі грамадскасці. На канферэнцыі выступілі навуковыя супрацоўнікі гісторыка-культурнай установы «Паланіка-літуаніка» Алесь Стральцоў-Карвацкі, Тодар Кашкурэвіч і Інстытута філасофіі НАН Беларусі Аляксей Дзермант.***

Алесь Стральцоў-Карвацкі расказаў аб дзейнасці «Паланікі-Літуанікі», якая існуе з 2003 года і займаецца ўмацаваннем культурных і грамадскіх сувязяў паміж Беларуссю, Польшчай і Літвой, што некалі знаходзіліся ў адной дзяржаве. Праінфармаваў пра своеасаблівую беларуска-польскую канферэнцыю «Становішча шляхты, духавенства і сялян ВКЛ каталіцкага веравызнання ад XIX да паловы XX стагоддзя». Там ішла размова і пра цяперашні стан палаца Ваньковічаў-Манюшкаў-Агінскіх у Смілавічах. Выступоўца падарыў бібліятэцы некалькі кніг па нашай гісторыі, у якіх ёсць матэрыялы па гісторыі Смілавіч. Адна з іх – «Мой край і яго людзі ў Вялікім княстве» – створана паводле твораў конкурсу, які праводзіўся ў 20-ці гарадах і мястэчках Беларусі сярод школьнікаў старшых класаў. Яны паказалі сувязь іх населенага пункта са старажытнасцю, з гісторыяй ВКЛ (ад «КГ»: тое-сёе, нават вельмі цікавае, скажам, пра гістарычныя ўзаемаадносіны сённяшніх беларускіх і літоўскіх земляў, а таксама дачыненняў праваслаўя і каталіцызму ў гэтай публікацыі апускаецца дзеля эканоміі «плошчы»).

Затым выступіў Тодар Кашкурэвіч, які пашкадаваў аб тым, што цяперашнія людзі ў асноўным думаюць толькі пра матэрыяльны дабрабыт і ў гэтай мітусні не могуць знайсці часу, каб успомніць пра сваіх дзядоў, прадзедаў і адкуль яны родам. Многім і ў галаву не прыходзіць, што ўсё ў свеце непарыўна звязана: лёс наш асабісты, нашых дзяцей шмат у чым звязаны з лёсам мястэчка, вёскі, горада, у якім мы жывем. Калі б мы больш удзялялі ўвагі нашай гісторыі, было б менш беспамяцтва, заганных спакусаў, алкагалізму, наркаманіі, распусты, ужывання нецэнзурнай лексікі.

Т. Кашкурэвіч прадэманстраваў самаробны інструмент, які называецца дуда і які шырока выкарыстоўваўся ў Беларусі з часоў язычніцтва аж да 1970-х гадоў як сімвал народнага духу. Прыкладна так, як і ў іншых краінах Еўропы (Украіна, Венгрыя, Шатландыя і інш.). Затым выступоўца паказаў розныя мелодыі на дудзе, якія выконваліся ў часы каляндарных і сямейных святаў, а таксама на вечарынках: «юрачка», «цецерка», «мяцеліца»; вельмі старадаўнюю песню пра Цмока і спевы, што захаваліся да нашага часу ў дзіцячым фальклоры, сыграў мазурку. Ён лічыць, што аснова беларускіх мазурак (а не польскіх) была выкарыстана М. Агінскім для стварэння паланэзаў і мазурак, у тым ліку ў знакамітым паланэзе «Развітанне з радзімай». Удзельнікі сустрэчы з хваляваннем слухалі розныя мелодыі, якія выконваліся на дудзе: вясёлыя і сумныя, пад якія танцавалі наша шляхта і просты люд: вальсы, мазуркі, кракавякі, полечкі, кадрылі... Потым, не назваўшы, сыграў «Саўка ды Грышка ладзілі дуду»; мелодыю слухачы адразу ж пазналі і праводзілі дудара гарачымі апладысментамі.



*Тодар Кашкурэвіч*



*Уладзімір Шулякоўскі падчас канферэнцыі*





**Смілацкі дом Станіслава і Евы Манюшкаў і яго скляпенні: з памятным камнем і без яго**

Пасля адмысловай музычнай асветы ўдзельнікі сустрэчы зноў загаварылі пра палацава-паркавы комплекс. Прадстаўнікі розных прафесій – Таццяна Фесенка, Таццяна Продка, Аляксандр Халадзінскі, Уладзімір Шулякоўскі, Наталля Шыліна, Аляксандра Шыдлоўская, Людміла Драпеза і іншыя выказалі глыбокую занепакоенасць дрэнным станам палаца Ваньковічаў-Манюшкаў (ад «КГ»: падрабязна пра стан гэтага палаца чытайце ў артыкуле У. Шулякоўскага ў № 39). Да 1970-х гадоў, калі ў ім была сталовая тэхнікума і жылі людзі, ён захоўваўся. А пасля – з-за адсутнасці ўсялякага дагляду – пад уздзеяннем прыродных фактараў (дажджу, ветру, снегу, марозу і, на жаль, з-за звычайнага чалавечага вандалізму) ён пачаў разбурацца на вачах. У часы гарбачоўскай «перабудовы» быў зроблены праект рэстаўрацыі. На гэтым «рэстаўрацыя» і закончылася. Тыя паперы цяпер... «спяць» у Чэрвеньскім музеі.

Некалі ў гэты унікальны парк мы заходзілі з заміраннем сэрца. Вакол яго былі яловыя алеі, якія абаранялі каштоўны сад ад ветру. Я быў маленькі, але помню той алейны цуд... Калі дырэктарамі сельгастэхнікума былі Самусенка, а потым Гудыменка, кожнае дрэва даглядалі студэнты, гэта была іх практыка. На кожным дрэве вісела таблічка з лацінскай назвай і пазначэннем, адкуль яно прывезена, калі і кім пасаджана. Мы, вучні Смілавіцкай школы і студэнты тэхнікума, у час урокаў фізкультуры старанна даглядалі ўсё. Мы не маглі сабе нават уявіць, каб кінуць тут паперку ці недакурак – мы ж прыбіралі вельмі шаноўную мясціну! Але прыйшлі новыя дырэктары, новыя «гаспадары» унікальнага палацава-паркавага комплексу. Цяпер плакаць хочацца, у што, *лічы, усё святое*, ператварылася па абыякавасці і чэрствасці тых, хто духоўнасць і вялікае значэнне нашай гісторыка-культурнай, прыроднай спадчыны таптаў дзеля ўзыходжання па лесвіцы сваіх пасад! Напрыклад, па загадзе цяперашняга дырэктара каледжа Уладзіміра Купрэйчыка былі спілаваны рэдкія дрэвы маньчжурскага арэха, а на іх месцы пасаджаны паўжывыя елачкі. У цяні тых дрэў ля тэхнікума некалі мы, маладыя, весяліліся, танцавалі, цешыліся жыццём. А цяпер на сцяне паміж паверхамі палаца расце дрэва, карэннем таксама разбураючы яго...

Ў гэтым годзе з'явіла магчымасць «ссунуць» праблему з мёртвай кропкі, калі пад эгідай ЮНЭСКО рашылі арганізаваць тут музей сусветна вядомага мастака, ураджэнца Смілавіч Хаіма Суціна. Пагадзіліся, што самае прыдатнае месца для музея – палац Ваньковічаў-Манюшкаў, які належыць мясцоваму каледжу. Але яго дырэктар Уладзімір Купрэйчык не пагадзіўся: навошта яму лішні клопат?

Музей Х. Суціна мог стаць той кропкай, з якой пачалася б рэканструкцыя палаца: сюды паехалі б турысты не проста з «разявацкім» інтарэсам, але і з грашыма... Балюча многім з нас, што кіраўнік каледжа лічыць сваім клопатам найперш падрыхтоўку спецыялістаў для сельскай гаспадаркі – такіх, як і ён сам. А вось выхоўваць знаўцаў, патрыётаў радзімы, зберагальнікаў роднай прыроды, пачынаючы... нават з парка, закладзенага Казімірам Манюшкам, зусім лішняе... А «любоў» цяперашняя праяўляецца ў тым, што ў склепе панскага дома, закладзенага Станіславам і Евай Манюшкамі ў 1795 годзе, вандалы выдралі летапісны валун, які быў умураваны тут больш як 200 гадоў таму.

Удзельнікі канферэнцыі выказалі занепакоенасць і гаротным станам Смілавіцкай гарпасялковай бібліятэкі, якая была пабудавана ў 1930-х з бярвенняў разбуранай бальшавікамі татарскай мячэці. Праблему можна было б рашыць, размясціўшы бібліятэку ў пакоях былой школы-інтэрната, папярэдне іх крыху адрамантаваўшы. Але нават адносна невялікай сумы грошай для гэтай мэты ў аддзеле культуры, мабыць, знайсці не могуць.

***Кітайскі мудрэц казаў, што вялікі паход пачынаецца з першага ўдалага кроку. Калі ж будзе зроблены гэты першы крок, і трывогу неабыякавых грамадзян мястэчка пачуюць наверсе? А калі ж застануцца душэўна глухімі, то ад нашай нацыянальнай спадчыны – палацава-паркавага комплексу Ваньковічаў-Манюшкаў (як і ад іншых гісторыка-культурных сядзіб) застануцца рожкі ды ножкі. І хтосьці зноў подла з'ехідначае: а хіба калі-небудзь у вас было штосьці значнае ды сваё?!***

*Уладзімір ШУЛЯКОЎСКІ*





# Дарожнікі — краязнаўцы

***Беларусь, як вядома, знаходзіцца ў геаграфічным цэнтры Еўропы, таму ролю аўтамабільных дарог у жыцці нашай краіны цяжка пераацаніць. Здавён тэрыторыя сучаснай Беларусі з'яўляецца перакрыжаваннем шляхоў з усходу на захад, з поўначы на поўдзень. Тут ляжалі шляхі многіх дыпламатаў, папскіх нунцыяў, па нашых дарогах вандравалі рыцары, купцы. Вядома ж, па беларускіх дарогах пралягалі і шляхі нашых ворагаў у кровапралітных еўрапейскіх войнах...***

Аб стане беларускіх дарог у Сярэднявеччы да нас дайшлі скупыя звесткі з мемуараў чужаземцаў, якія наведалі нашу краіну. Адно з першых апісанняў нашага краю належыць фламандцу Жыльберу дэ Ланаа (1386–1462). Цікавыя нататкі пра Беларусь пакінулі пасол Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Герберштэйн, венецыянец Рафаэле Берберыні, польскі шляхціц Кшыштаф Граеўскі, а таксама італьянец Аляксандра Гваньіні, які 18 гадоў быў камендантам Віцебска. Па дарозе з Заходняй Еўропы ў Маскву Беларусь наведвалі таксама чэх Бернгард Танэр, англічанін Самюэл Колінз, славак Даніэль Крман і многія іншыя. Шмат цікавага пра дарогі, гарады Мінск, Барысаў тых часоў паведаў і рускі стольнік, потым паплечнік Пятра I граф Пётр Талстой.



*Вядучы інжынер-тапограф Яўген Гарбовы (злева) і начальнік экспедыцыі Сяргей Халяўка*

У XIX стагоддзі Беларусь наведалі рускі акадэмік В. Севергін, вучоны-батанік А. Башняк, польскі пісьменнік і падарожнік Ю. Нямцэвіч, рускі пісьменнік В. Селіванаў, англічанін Р. Джонсан, якія свае ўражанні пра Беларусь, яе насельнікаў і дарогі пакінулі ў сваіх пісьмовых сведчаннях.

Не ўсе падарожнікі ў нататках запісвалі дакладныя звесткі пра нашу Бацькаўшчыну. Так, сакратар аўстрыйскага пасольства Іёган Корб, наведаўшы Мінск у 1698 годзе, пісаў, што Свіслач «уліваецца ў мора...» пад Рыгаю. Дарогі ў Сярэднявеччы былі звычайна ў дрэнным стане і даволі блытаныя. Указальнікамі на іх служылі капцы, часам заломліваліся галіны дрэў, рабіліся засечкі на іх.

Верставыя слупы і ўказальнікі напрамкаў, лічаць даследчыкі, упершыню былі выкарыстаны на пачатку XIX стагоддзя.

Па сведчанні сакратара пасольства Ганзы да цара Барыса Гадунова Іёгана Брамбаха (1603), у падарожжы з-за шматлікіх ям неаднаразова перакульваліся сані ганзейскага пасольства.

Якасць дарог крыху палепшылася ў другой палове XVIII стагоддзя. Па загадзе Кацярыны II пачалі пракладваць дарогі, якія ў народзе называліся «кацярынінскімі шляхамі». На Беларусі прыкладам такой дарогі з'яўляецца сённяшняя аўтамабільная траса Івацэвічы–Слуцк–Бабруйск – тагачасная мяжа Расіі.

Англійскі падарожнік У. Кокс, які ехаў з Гродна праз Мінск і Оршу ў Маскву, прыгадвае, што ад Мінска да Смалявіч, яму трэба было ехаць каля дванаццаці гадзін.

Не рэдкасцю сярод перашкод на шляху падарожнікаў былі паламаныя масты: правальваліся гнілыя насцілы, ламаліся парэнчы, а водныя перашкоды часцей за ўсё пераязджалі ўброд.

Патрабаванні да дарог змяніліся ў пачатку XX стагоддзя ў сувязі са з'яўленнем на іх аўтамабільнага транспарту. У Мінску першы грузавік з'явіўся ў 1911 годзе. Адпаведна, скончылася эра дарог для гужавых сродкаў. І калі гаворка заходзіла пра шляхі, то да слова «дарога» дадавалі прыстаўку «аўта».

Катаклізмы пачатку XX стагоддзя (Першая сусветная вайна, Кастрычніцкі пераварот, грамадзянская вайна) не спрыялі добраўпарадкаванню старых і будаўніцтву новых дарог. Апошняе атрымала развіццё ў канцы 1920-х, а ў 1932-м быў заснаваны праектны інстытут «Белдзіпрадор», які павінен быў займацца пытаннямі даследавання і праектавання аўтамабільных дарог і мастоў на тэрыторыі Беларусі, і ў тым ліку ваеннага значэння, што з'явілася пачаткам новага этапу развіцця дарожнай гаспадаркі. Першым кіраўніком гэтай установы быў Г. Фаловіч (1932–1937), затым гэтую пасаду займалі П. Жукаў (1937–1941; 1946–1969), Л. Патаповіч (1969–1977), А. Акатаў (1977–1980), М. Матлакоў (1980–1984), І. Юнашаў (1984–1995). З 1995-га і па сённяшні дзень УП «Белдзіпрадор» узначальвае А. Фёдараў.

Няма магчымасці ў кароткім слове пералічыць буйныя і невялікія аб'екты, якія былі запраектаваны інстытутам і пабудаваны дарожнымі ўстановамі.

Варта толькі адзначыць, што па стане дарог і штучных збудаванняў на іх Беларусь сярод іншых рэспублік былога Савецкага Саюза займала адно з першых месцаў. Многія, хто прыязджае з Расіі, здзіўляюцца, што ў суседняй з імі былой савецкай рэспубліцы якасць нават мясцовых (не кажучы пра магістральныя) дарог вышэй, чым у цэнтры Расіі.

Аўтару гэтых радкоў давялося амаль 20 гадоў працаваць геолагам у інжынерна-вышукальным аддзеле «Бездзіпрадора», прайсці пешшу і праехаць не адну тысячу кіламетраў беларускіх дарог. Скажу шчыра, у геолагаў і тапографаў-вышукальнікаў гэтай установы праца не з лёгкіх. У камандзіроўцы яны бываюць часцей, чым дома. Іншы раз, пасля цяжкага дня палявых пошукаў на марозе ці змоклыя ад дажджу, расы яны не маюць магчымасці пасушыць адзенне, абагрэцца. Зразумела, не ўсе вытрымліваюць такія выпрабаванні, нехта і звальняецца з гэтай працы. Застаюцца моцныя духам, улюбёныя ў сваю нялёгкую прафесію.

Мне пашанцавала працаваць побач з такімі супрацоўнікамі – калегамі, якія некалькі дзесяцігоддзяў карпелі на палявых работах. Гэта – геолагі Э. Рысявец, М. Берлін, В. Малькоў, Г. Якубовіч, тапографы В. Новік, Ф. Кайкоў, У. Дубянчук, В. Бандарэнка, Л. Мяжэвіч і іншыя.

Шмат гадоў і цяпер сумленна працуюць геолагі В. Марфель, С. Сідараў, тапографы І. Віктаровіч, С. Халяўка, А. Васільеў. Кіраўніком аддзела інжынерных вышукаў з'яўляецца А. Літвіненка, галоўным геолагам С. Мартынюк.

Вялікі ўклад у распрацоўку праектаў уносяць супрацоўнікі маставога аддзела, праектыроўшчыкі дарожнага аддзела.

Адным з самых значных аб'ектаў для праектыроўшчыкаў «Белдзіпрадора» на мяжы XX і XXI стагоддзяў стала рэканструкцыя Мінскай кальцавой дарогі.

Невыпадкова я палюбіў краязнаўчую справу, стаў сталым чытачом вельмі цікавай «Краязнаўчай газеты». Гэтаму паспрыяла мая праца ў якасці глебазнаўцы, а таксама праца геолагам-вышукальнікам у «Белдзіпрадоры». За 33 гады, працуючы ў палявых умовах, мне давялося наведаць амаль кожны куточак Беларусі. Шчыра хачу адзначыць, што ўсе мае былыя калегі па працы ў «Белдзіпрадоры» таксама з'яўляюцца выдатнымі краязнаўцамі. Кожны з іх можа цікава расказаць і пра прыродныя ўмовы, і пра славутасці, звычаі жыхароў пэўнай мясцовасці. Адным словам, што ні дарожнік, то краязнавец. Ёсць надзея, што пасля гэтага артыкула ў газеце, прыхільнікі і чытачы «Краязнаўчай» з'явяцца і сярод супрацоўнікаў гэтай дзяржаўнай установы.

***А на заканчэнне хачу павіншаваць са старонак газеты ўвесь калектыў УП «Белдзіпрадор» са святам – 75-годдзем заснавання інстытута, пажадаць усім моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў у працы на карысць нашай Бацькаўшчыны – Беларусі.***

***Лявон ЦЕЛЕШ,***
***г. Дзяржынск***




*(Працяг. Пачатак у № 43)*

## Вялікае княства Літоўскае. Альгерд і Кейстут

Гедзімінавічы – на ўсходнеславянскіх землях княская галіна, другая ў адпаведнасці з радаводам пасля Рурыкавічаў. Унук Гедзіміна Ягайла (Ягелла) быў заснавальнікам польскай каралеўскай дынастыі Ягелонаў. Ён прыклаў шмат намаганняў для пашырэння і росквіту еўрапейскай дзяржавы, якой з'яўлялася ВКЛ.

Гедзімін загінуў у змаганні з крыжакамі. Яшчэ пры жыцці ён падзяліў дзяржаву паміж сваімі сынамі. Яўнуту быў прызначаны вялікакняскі прастол. Гэта акалічнасць вельмі непакоіла Альгерда і Кейстута. Яўнут быў слабы. Браты – Альгерд і Кейстут – у 1345 г. вырашылі пазбавіць яго прастола шляхам перастаноўкі – Яўнуту выдаткавалі Заслаўскія землі пад Мінскам (у 1362 г. той будзе ўдзельнічаць у змаганні на Уланавым полі), а Альгерд быў абвешчаны вялікім князем Літоўскім, Кейстут – князем Трокскім.



*КнязьАльгард (паводле сярэднявечнай гравюры)*

Дзейнасць, мужнасць, дзяржаўныя здольнасці Альгерда цягам трыццацідвухгадовага княжання ўражваюць. Ягоным памочнікам, сябрам і таварышам у самых рызыкоўных справах заўсёды быў Кейстут. Ім давялося весці працяглую барацьбу з нямецкімі рыцарамі. Так, у 1345—1377 гг. у Беларусі і Літве давялося стрымаць каля ста нямецкіх набегаў, 42 разы выпраўляцца ў паходы. Ваяваў Альгерд і з Казімірам Вялікім, які захапіў Брэст і значную частку Галіцыі. Пасля працяглай барацьбы Любарт з Альгердам усё ж такі абаранілі Валынь. Такім чынам, да Падолля і да Чорнага шляху заставалася ўсяго дваццаць сем кіламетраў...

Украіна стагнала пад мангола-татарскім прыгнётам. Вялікі князь Гедзімін мірным шляхам, паходамі далучаў землі Кіеўскага Палесся да ВКЛ. У 1339 г. ён ішоў з Валыні на Жытомір, на Корасцень, Оўруч. І адбывалася гэта без пажараў, без гвалту, што было правілам для Вялікага княства Літоўскага ў дачыненні да славянскіх народаў.

1362 год. Літоўска-Беларуская дзяржава – адна з самых магутных у Еўропе. Альгерд рыхтуецца да новага паходу на Падолле. Як мы ведаем, Кейстут стаяў на межах з Тэўтонскім ордэнам і з палякамі. Альгерд дзейнічаў на межах усходніх і паўднёвых – супраць рускіх і татараў. Гэты падзел Вялікага княства на Віленскую і Трокскую половы, на Альгердаву і Кейстутаву, заставаўся трывалым і агульнапрызнаным. Добрыя стасункі складваліся і з Маскоўскім княствам. Масква ў той час не з'яўлялася пагрозай, на прастоле княжыў дванаццацігадовы Дзмітрый, пазней Данскі.

## Падрыхтоўка да паходу

«Па Падоллі качавалі тры арды Манголаў. У 1362 г. Альгерд атрымаў бліскучую перамогу над трыма татарскімі князямі – Кічыбеем, Кутлубугам, Дзімітрыем на берагах рэчкі Сінія Воды. Тады прыйшоў у Таўрыду і разбурыў Херсанес, дзе захапіў багата каштоўнасцей. Тады ж усё Падоллле было далучана да Вялікага княства Літоўскага, а следам скарылася яму і Кіеўскае княства без бою», – так піша А. Кіркор у кнізе «Жывапісная Расія» (1882).

Паўторым, апісання паходу на Падолле летапісцы нам не пакінулі, таму мы зробім спробу змадэляваць шлях паходу як найбольш верагодны.

У 1362 г. Альгерду споўнілася 66 гадоў. За плячыма вялікі ваенны вопыт. Лёсам радзімы рызыкаваць не меў права. «Тры царкі», як пішуць у летапісах, – для яго не аргумент слабага, Залатая Арда заўсёды была моцным супернікам (нават пасля 1362 г.), таму паход быў звязаны з пэўнай рызыкай. Альгерд мог выставіць 25–30 тысяч вояў, Залатая Арда – утрая больш, як сцвярджае Яварніцкі. «Тры ханы прывялі тры арды.

*(Працяг на стар. 8)*





(Працяг. Пачатак на стар. 7)

Арда магла выставіць каля 30 тысяч ваяроў і паслугачоў. Такім чынам, літоўцам супрацьстаяла стотысячная армія». Праўда, у Альгерда войска было не меншае, як мяркуе ўкраінскі гісторык.

Разгледзім варыянты паходу, якія мог абраць Альгерд.

На сучасны карце пазначана адлегласць ад Вільні да Падолля. Калі праз Жытомір – 789 км. Праз Луцк–Любар – 869. Шлях у Тарговіцу праз Кіеў складае 1 150 км; праз Луцк, Любар – бліжэй (1 120 км), але трэба было ісці па Чорным шляху. Альгерд разумеў, што ісці Чорным шляхам у Дзікае поле для яго згубна. Таму ён прымае рашэнне пра тое, на нашу думку, што татары павінны прыйсці да яго самі на Уланава поле, праходзячы ад Ізмаіла – 870 км, ад Перакопа – 550 км, а з Бахчысарая – 749 км, стомленыя, упараныя і недзеяздольныя.

А вось войска Альгерда, якое з'явілася на Чорным шляху, магло быць разбітым стотысячнай арміяй яшчэ да прыходу ў Тарговіцу. Таму аргумент, што бітва адбылася на Сінюсе і татарскае войска чакала прыходу літвінаў, – неабгрунтаваныя. Нам здаецца, што Альгерд абраў Снівадў, што на Падоллі, і такім чынам прымусіў трох татарскіх ханаў пераадолець немалы шлях з Крыма, Перакопу, Дуная, прыйсці на 2–3 падменных конях на берагі рэчкі Сніводзь, дзе іх і напаткаў трагічны лёс...

Якой была армія ў сярэднявечныя часы? Войска складалася з пешага, коннага і гужавога транспарту, не мела асаблівай мабільнасці. З цяжкасцю магло пераадолець водныя перашкоды і г.д.

У кнізе Валянціна Грыцкевіча і Адама Мальдзіса «Шляхі вялі праз Беларусь» даецца апісанне Гваніні за XV ст. транспартнага сродку: «восі вазоў драўляныя, колы шырынёй 30 см з аднаго кавалка дрэва, а збруя не мела раменнага змацавання». Фарміраванне 6 палкоў (харугвы) у 30 000 войска, калі ўлічыць адлегласць на каня 3 метры дыстанцыі, на пешага воіна – 1 метр, а на воз – 7 метраў, дык такі атрад зойме 45–50 км». Паход і забеспячэнне войска павінна было адбывацца таемна, малымі атрадамі і ў рэшце рэшт, на нашу думку, у Любары. Складанасць паходу была і ў тым, што Корасцень і Жытомір лічыліся эканамічна адсталымі раёнамі. Мужчынскае насельніцтва было ў татарскім палоне і папаўняць войска не было кім. Таму шматдзённы паход патрабаваў вялікага запасу правізіі. А калі ў Кіеве княжыў Фядар – татарскі стаўленік, дык гэта выключала паход у прынцыпе. Відавочна, Альгерд прымае адзіна вернае рашэнне: ісці праз Валынь, дзе княжыў брат Любарт Гедзімінавіч.

Паход будзе адбывацца, як мы бачым, па заходняй частцы Беларусі ў памежжы з Польшчай, дзе тады быў канфлікт. Праз гэта стваралася магчымасць аддзяцца увагу татараў ад прапануемага ўдару у Падоллі.

Агульная мяжа, агульная дзяржава, агульныя мэты – аснова поспеху. Так, мабыць, думаў вялікі князь Альгерд, схіліўшыся над картай задоўга да паходу.

## На Валынь

«У год 1362 Альгерд з Літвы з войскам вялікай сілы пайшоў супраць бязбожных татараў у сярэдзіне верасня. Спадзеючыся на літасць Боскую і на Матку Боскую, на святую панну Марыю, заклікаючы на дапамогу Святы Крыж ды ідучы праз сваё княства і праз сваю вотчыну. Стаў на рацэ Сніводзь вусця Бох перахопліваючы звесткі пра ворага татарскага», – так мог бы пачаць аповесць сваю летапісец у кіеўскіх келлях, але не пакінуў гэтых сціслых радкоў нашчадкам. Пакінуў... вялікую перамогу князь Альгерд.

Можна ўявіць сабе, як увесну, калі кінуў зерне ў раллю селянін і абаронца зямлі ВКЛ, Альгерд пачаў рыхтавацца да паходу. Выклікаў братоў Карыятавічаў, кожнага паасобку, і даў план дзеяння на лета 1362 г. Відаць, збор дружыны адбываўся ў гарадах – Брэст, Пружаны, Кобрын, Гродна, Навагрудак, Пінск на мяжы з Польшчай, але Кейстутаў вайсковы люд Альгерд не прыцягваў. Фармавалася войска толькі з усходніх абласцей ВКЛ. З сям'і, дзе быў адзін сын, у войска не бралі. Зброю выкарыстоўвалі і трафейную, што пакінулі нямецкія рыцары. Былі сфармаваны чатыры палкі Карыятавічаў: Фёдара, Аляксандра, Канстанціна, Юрыя. Пяты полк фармаваў сын Альгерда Уладзімір, а шостым княжацкім палком было, як тады казалі, асабістае воінства Альгерда.

Да сярэдзіны жніўня сабраліся ўсе баявыя дружыны ў Валынскіх раёнах. Паход быў строга засакрэчаны, і як доказ – у летапісах, рэестравых кнігах ён не пазначаны. Не пісалі і «вандроўнікі» з Еўропы...

А тым часам апалчэнцы былі ўжо гатовыя да бою і стаялі на мяжы з Падоллем, у Любары.

***

У сярэдзіне жніўня вырушыў і Альгерд са сваім войскам у 3–5 тысяч вояў. Увесь шлях, на нашу думку, адбываўся па землях ВКЛ – спачатку праз гарады Ліду, Слонім, Івацэвічы, Кобрын, а тады па валынскіх гарадах – Ратнае, Ковель, Луцк, Дубна, Камянец, ён жа «Коршаў», Любар і на Падоллі – сённяшні Уланаў. Невялікая адлегласць паміж гарадамі рабіла паход бяспечным.

*(Працяг будзе)*

## Снежань

**Сурначоў Мікола** (Мікалай Мікалаевіч; 1917, Рагач. р-н – 1945), паэт – 90 гадоў з дня нараджэння.

**«Полымя»**, аб'яднанне беларускіх савецкіх пісьменнікаў (Мінск, 1927–1932) – 80 гадоў з часу стварэння.

**5 – Разанаў Алесь** (Аляксандр Сцяпанавіч; 1947, Бяроз. р-н), паэт, перакладчык, эсэіст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Купалы (1990) – 60 гадоў з дня нараджэння.

**19 – Дворнікаў Мікалай Мікалаевіч (1907, Гомель – 1938),** дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, удзельнік вайны ў Іспаніі 1936–1939 гг. – 100 гадоў з дня нараджэння.

**24 – Гушча Ян (1917, Мёр. р-н – 1986),** польскі пісьменнік, перакладчык твораў беларускай літаратуры на польскую мову – 90 гадоў з дня нараджэння.

**24 – Магілёўскі музей В.К. Бялыніцкага-Бірулі (1982) –** 25 гадоў з часу адкрыцця.



*Шлях у зазімак*

*Фота Насці МЕЛЬНІКАВАЙ*

## А калі апёк?

Пры электрычных апёках кіруйцеся такімі прынцыпамі першай дапамогі:

– ніколі не набліжайцеся да пацярпелага ад электрашоку, калі вы не ўпэўненыя, што крыніца сілкавання выключана. Калі на месцы здарэння вы пабачылі паваленую лінію электраперадач, пачакайце прыбыцця пажарнай каманды ці брыгады электрыкаў. Калі агалены дрот знаходзіцца на корпусе аўтамабіля, парайце людзям заставацца ў машыне;

– праводзячы пачатковы агляд уважліва, назірайце за прыкметамі парушэння дыхання ці нечаканага спынення сэрца;

– падчас правядзення другаснага агляду не забудзьцеся агледзець уваходную рану: заўжды шукайце 2 апёкі. Накладзіце стэрыльную павязку на месца апёку;

– пацярпелы ад удару маланкі можа таксама мець пераломы, уключаючы пералом пазванка, таму ахвяру не варта рушыць з месца. Апёкі ў такім выпадку менш сур'ёзныя.

**Вольга ЦЫНКЕВІЧ, інспектар ЦРАНС**

## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ГЛАСІС** (фр.) – ахоўны земляны насып перад абарончым ровам замка ў рознай форме і ў розных памерах, за якім хаваліся стралкі – яны ці абаранялі замак, ці рабілі нечаканыя набегі на ворага. Часам перад гэтымі насыпамі будаваліся абарончыя сухія або вадзяныя равы (замак у Нясвіжы), а за імі ладзілася спецыяльная дарога для перамяшчэння воінаў гарнізона ў час аблогі.



*Фрагмент гласіса (справа) Нясвіжскага замка*

**ГЛЕБ** – князь ваўкавыскі ў сярэдзіне XIII ст., быў саюзнікам Навагародка, спрыяў таму прыкладна да 1246 г. заклалсці асновы ВКЛ. У 1258-ым галіцка-валынскі князь Даніла Раманавіч, чарговы раз намагаючыся не дапусціць станаўлення ВКЛ, разарваць мірныя пагадненні Навагародка з суседнімі княствамі, захапіў Ваўкавыск і паланіў Глеба, але захаваў яму жыццё. Адпаведна, той мог і далей княжыць у сваёй вотчыне.

**ГЛЕБ РАГВАЛОДАВІЧ** – князь друцкі ў канцы XII ст., сын князя Рагвалода Барысавіча. Праягваў бацькаву палітыку ў суперніцтве з Полацкам і Мінскам. У 1180-м у саюзе са смаленскім князем Давыдам Расціслававічам беспаспяхова супрацьстаяў сілам палачан, чарнігаўцаў і наўгародцаў у іх паходзе на Друцк, таму яго змусілі пакінуць горад.

**ГЛЕБ УСЕВАЛАДАВІЧ** (1120-я – пасля 1173) – князь гарадзенскі, сын Усевалада Давыдавіча (наследаваў пасад разам з братам Барысам). Актыўна ўмешваўся ў справы блізкіх княстваў (удзельнічаў у паходзе супраць галічан, у 1174-м дапамагаў Андрэю Багалюбскаму ў міжусобнай барацьбе за кіеўскі пасад).

**ГЛЕБ УСЯСЛАВІЧ** (? – 1119) – князь менскі, сын полацкага князя Усяслава Брачыславіча (Чарадзея). Адзін з актыўных прадаўжальнікаў барацьбы тагачаснай Полаччыны супраць тэрытарыяльных і палітычных дамаганняў кіеўскіх князёў. У 1104-м абараняў Менск ад нападу кааліцыйных сіл князёў з поўдня. У 1106-м браў удзел у паходзе на земгалаў, далучыў да падуладнага яму княства Копысь, Оршу, Друцк. У 1116 г. пасля яго нападу на Слуцк з ваеннай сілай рушыў кіеўскі князь Уладзімір Манамах на Менск і пасля жорсткай бітвы вымусіў падпісаць такі мір, па якім Глеб Усяславіч вымушаны быў фактычна саступіць Падняпроўе і Верхняе Панямонне. Але праз нейкі час вярнуў страчанае. У адказ кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч у 1118-м наладзіў новае нашэсце на Менск, у ходзе бою захапіў Глеба Усяславіча, адвёз яго ў Кіеў. Паводле думкі некаторых гісторыкаў, там менскі князь быў гвалтоўна знішчаны.



*Глеб Усяслававіч (сучасны малюнак)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасней – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 334 61 62. Тэл./факс 334-42-03 E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 22.11.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 1392. Тыраж 1270 асобнікаў.